ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА



## АБ ЗБОЖЖАЗАГАТОЎКАХ 1932 — 33 г.

ЖНІВЕНЬ

№ 3

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1 9 3 2

Літпраўка *А. Зіміонка*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Корэктар *Т. Бандарчык*
Здана ў друкарню 9/VIII—32 г.
Падпісана да друку 16 VIII—32 г.

Заказ № 1330. 10.000 экз. ($1^1/_2$ арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 766.

Друкарня імя Сталіна.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

## Аб збожжазагатоўках 1932-33 г.

Перамогі веснавой сяўбы

Збожжазагатоўчая кампанія гэтага году непасрэдна зьвязана з перамогамі, заваяванымі нашай партыяй у выніку правядзеньня веснавой сяўбы.

Веснавая сяўба гэтага году адзначыла сабой поўную перавагу саўгасаў і колгасаў у сельскай гаспадарцы, ахапіўшы чатыры пятых усёй яравой плошчы. Вынікі сяўбы сьведчаць аб тым, што Савецкі саюз канчаткова ўмацаваўся на новым социялістычным шляху і што рашучую перамогу социялізму можна ўжо лічыць завершанай. Гэта першае і асноўнае, што мы павінны мець на ўвазе пры пра-

вядзеньні збожжазагатовак у гэтым годзе і што адрозьнівае ўмовы збожжазагатовак 1932-33 г. ад умоў мінулага году.

Па БССР мы маем наступныя перамогі, дасягнутыя ў выніку пасьпяховага правядзеньня веснавой сяўбы:

а) Агульны пасеўны плян выканан у 2326 тыс. *га*, што дае павялічэньне супроць мінулага 1931 г. на 9,3 проц.

Колгасы засеялі 1371 тыс. *га* (у мінулым годзе 1056 тыс *га*). Колгасы аб'яднаныя МТС,— 486 тыс. *га* (у мінулым годзе 212 тыс. *га*). Саўгасы засеялі 169 тыс. *га* (у мінулым годзе 103 тыс. *га*). Гэта сьведчыць аб далейшым умацаваньні і росьце сацыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі, пасеўная плошча якога складае 60,6 проц. усяго яравога кліну БССР.

б) Асабліва важнымі зьяўляюцца посьпехі ў засеве важнейшых вядучых культур (бульба, лён), што зьяўляецца буйным крокам наперад па шляху спэцыялізацыі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

сельскай гаспадаркі ў напрамку разьвіцьця тэхнічных культур і падвядзеньня больш моцнай тэхнічнай базы пад жывёлагадоўлю. Бульбы ў гэтым годзе засеяна на 62,5 тыс. *га* больш, чым у мінулым годзе; ільну на 30,2 тыс. *га*.

в) У выніку веснавой сяўбы колгасы больш умацаваліся організацыйна і політычна, паказаўшы далейшыя перавагі колектыўнай гаспадаркі над аднаасобнай. Асабліва яскрава гэта пацьвярджаецца параўнаньнем засеву на гаспадарку колгасьніка і аднаасобніка. На гаспадарку ў колгасе прыпадае 4,06 *га* засеву супроць 2,26 га аднаасобніка. На колгаснага каня прыпадае 4,68 *га* засеву, на каня аднаасобніка—2,71 *га*.

г) МТС—асноўны вагар тэхнічнага пераўзбраеньня і соцыялістычнага перавыхаваньня сялянства — поўнасьцю выканалі свой пасеўны плян. Яны засеялі 41 проц. плошчы колгасаў.

Такім чынам на аснове цьвёр-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

дага і няўхільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, у рашучай барацьбе з кулацтвам і яго агентурай у радох партыі—правымі і „левымі“ опортуністамі—наша партыя дасягнула буйнейшых посьпехаў у правядзеньні веснавой сяўбы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Дасягнутыя посьпехі маюць выключнае значэньне для пасьпяховага сканчэньня чацьвертага заключнага году пяцігодкі і ствараюць лепшыя ўмовы для пасьпяховага правядзеньня збожжазагатоўчай кампаніі.

**Асаблівасьці збожжазагатовак гэтага году**

Асаблівасьці збожжазагатоўчнай кампаніі адзначаюцца наступнымі асноўнымі момантамі.

Збожжазагатоўкі гэтага году будуць праходзіць у такіх умовах, калі ў вытворчасьці таварнага збожжа рашаючае значэньне мае соцыялістычны сэктар сельскай гаспадаркі. Усяго ў дзяржаўных збожжазагатоўках 1931 г. доля соцыялістычнага сэктару

с.-г. склала 75 проц. У паасобных рашаючых раёнах Саюзу доля соцыялістычнага сэктару ў загатоўках збожжа складала значна большы процант, напр. Ніжняя Волга—95 проц., Паўночны Каўказ—90 проц., Украіна—80 проц.

Вырашэньне збожжавай проблемы на аснове саўгасаў і колгасаў дало магчымасьць партыі і савецкай уладзе аказаць буйнейшую дапамогу па асобным раёнам Саюзу, дзе быў неўраджай і засуха, і мець дастатковую колькасьць збожжа для снабжэньня краіны. Зусім ясна, што калі-б пераважнае месца ў сельскай гаспадарцы займаў аднаасобны сэктар, неўраджай і засуха прынесьлі-б вялікую шкоду ўсёй народнай гаспадарцы.

Для характарыстыкі перамог саўгасаў і колгасаў важнае значэньне маюць наступныя лічбы:

Па СССР—колгасы і саўгасы, разам узятыя, маюць пад зернавымі культурамі 78,6 проц. засеўных плошчаў супроць 66,6

ДЛЯ ЗАЎВАГ

проц. у мінулым годзе; засеўная плошча зерневых культур у колгасах вырасла з 61782 тыс. *га* ў 1931 г. да 70385,3 тыс. *га* ў 1932 г., у саўгасах—з 7835 тыс. *га* да 9372,4 тыс. *га*. МТС ужо ахапляюць больш паловы ўсіх колгасаў, і засеўная плошча зерневых культур, апрацоўваемая МТС, складае 31.606,3 тыс *га* супроць 23720,5 тыс *га* ў 1931 г.

Зусім ясна, што такая абстаноўка ў вёсцы стварае больш спрыяючыя ўмовы для правядзеньня збожжазагатоўчай кампаніі ў параўнаньні з мінулым годам.

Ураджайнасьць збожжавых культур, як гэта паказваюць ужо цяпер усе даныя, значна вышэй, чым у мінулым годзе, а гэта значыць, што агуловы збор збожжа мы будзем мець адпаведна большы, чым у мінулым годзе.

Дзяржаўны плян збожжа загатовак па колгасах і аднаасобных гаспадарках зьменшан супроць пляну мінулага году на 265 млн.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пудоў і ў той-жа час плян збожжазагатовак па саўгасах павялічан на 40 млн. пудоў.

Параўнальна з мінулым годам плян збожжазагатовак па Саюзе зьменшан на 18 проц., а па БССР нават больш (у мінулым годзе плян складаў 6 млн. пудоў, а ў гэтым годзе—4 млн. пудоў).

Н а а с н о в е п о с ь п е х а ў п а р т ы і ў с п р а в е ў з д ы м у п р а м ы с л о в а с ь ц і і с е л ь с к а й г а с п а д а р к і с т а ў м а г ч ы м ы м к о л г а с н ы г а н д а л ь, я к д а д а т к о в а я к р ы н і ц а с н а б ж э н ь н я г а р а д з к о г а н а с е л ь н і ц т в а. Гэта адзін з важнейшых момантаў, якi значна адрозьнівае ўмовы збожжазагатовак гэтага году ад умоў мінулага году.

Колгасны гандаль збожжам зьяўляецца спрыяючым фактарам у справе першачарговага выкананьня колгасамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай і арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Адзначаныя намі асноўныя асаблівасьці збожжазагатовак гэтага году, ствараюць усе ўмовы для лепшага выкананьня плянаў загатовак. Аднак, было-б грубейшай палітычнай памылкай і фактычным праяўленьнем опортуністычных адносін да збожжазагатовак думаць, што калі мы маем усе спрыяючыя, значна лепшыя ўмовы для выкананьня плянаў загатовак, то гэтым самым мы можам у парадку самацёку іх выканаць. Такое меркаваньне зьяўляецца зусім няправільным.

**Не самацёк, а бальшавіцкая барацьба за збожжазагатоўкі**

Нам трэба цьвёрда памятаць наступнае:

а) Поўная перамога колгасаў і саўгасаў у сельскай гаспадарцы стварыла значна лепшыя, спрыяючыя ўмовы для выкананьня плянаў загатовак. Аднак, гэта ні ў якім разе не азначае, што плян будзе выканан бяз труднасьцяй і барацьбы—г. зн. у парадку самацёку.

Ня гледзячы на тое, што кулак



ДЛЯ ЗАЎВАГ

у асноўным ліквідаван у важнейшых с. г. раёнах Саюзу, мы маем яшчэ рэшткі кулацкіх элемэнтаў, яшчэ ёсьць уплыў кулацкіх элемэнтаў на аднаасобнікаў (апошніх па СССР налічвэецца 10—11 млн. гаспадарак) і на паасобныя праслойкі колгасьнікаў. Гэтага ні ў якім разе забываць нельга.

Ня трэба забываць і ўказаньня правадыра партыі т. Сталіна аб тым, што „ў колгасах ёсьць індывідуалістычныя і нават кулацкія перажыткі, якія яшчэ не адпалі, але якія абавязкова павінны адпасьці па меры ўмацаваньня колгасаў, па меры іх машынізацыі“.

Вопыт збожжазагатоўчай кампаніі мінулага году з усёй відавочнасьцю паказаў на тое, што адсутнасьць сапраўднай балшавіцкай барацьбы за збожжа, спадзеваньне на самацёк у загатоўках і недаацэнка кулацкага супраціўленьня іх правядзеньню вызначылі сабой недавыкананьне пляноў, наяўнасьць кулацка-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

спажывецкіх тандэнцый ў паасобных колгасах (па „прынцыпе“—„спачатку сабе, а рэшткі дзяржаве“) і буржуазных тэндэнцый у паасобных саўгасах (справа „Саюзцукру“ і Белсельтрэсту ў БССР).

б) Наяўнасьць больш павышанага ўраджаю ў гэтым годзе, ні ў якім разе не азначае таго, што мы ў парадку самацёку рэалізуем гэты павышаны ўраджай і тым самым у парадку забясьпечым больш высокі агуловы збор збожжа.

Высокая ўраджайнасьць і адпаведна гэтаму высокі агуловы збор збожжа знаходзіцца ў прамой залежнасьці ад таго, наколькі мы поўнасьцю выканаем пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб уборачнай кампаніі, а таксама пастановы ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б па гэтым-жа пытаньні. Гэта значыць, наколькі мы сконцэнтрыруем увагу на барацьбе са стратамі пры ўборцы ўраджаю, наколькі да-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

скальна без страт убяром ураджай і забясьпечым яго хутчэйшы абмалот.

Зусім было-б няправільным і па сутнасьці опортуністычным адрываць збожжазагатоўкі ад уборкі ўраджаю. Пасьпяховая ўборка ўраджаю стварае больш моцную базу для выкананьня збожжазагатоўчых плянаў. Уборка і загатоўкі зьяўляюцца такімі задачамі, якія павінны яшчэ больш організацыйна і гаспадарча ўмацаваць колгасы і стварыць значна лепшыя магчымасьці для разгортваньня колгаснага гандлю.

Такім чынам і ў гэтай галіне патрэбен не самацёк, не спадзяваньні на тое, што сам па сабе высокі ўраджай забясьпечвае павышаны збор, а бальшавіцкая барацьба за ўборку бяз страт, бальшавіцкая барацьба за організаванае правядзеньне загатовак.

в) Зьмяншэньне плянаў загатовак па колгасным і аднаасобным сэктары зусім не

азначае лёгкасьці яго выкананьня ў парадку самацёку.

Тав. Шарънговіч у сваім дакладзе аб выніках ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б указваў на тое, што

> „Мы ў гэтым годзе будзем мець складаныя ўмовы правядзеньня збожжазагатоўчай кампаніі. Гэта трэба ўлічыць з тым, каб з усёй сілай змагацца з настроямі накталт таго, што цяперашняю збожжазатоўчую кампанію, паколькі пляны зьменшаны, можна праводзіць самацёкам, што, бачыце, таму ня трэба мобілізаваць усе нашы партыйныя організацыі, прафсаюзы, комсамол і т. д. на барацьбу за поўнае і і своечасовае выкананьне плянаў загатовак".

Выкананьне плянаў загатовак па колгасным і аднаасобным сэктарох патрабуе ад партыйных і загатоўчых організацый шырокага разгортваньня і значнага

ўзмацненьня арганізацыйна-палітычнай работы. Выкананьне павялічанага пляну па саўгасах патрабуе таксама значна большага ўмацаваньня арганізацыйнай і масава-палітычнай работы ў саўгасах, патрабуе абвяшчэньня самай бязьлітаснай барацьбе найменшым праяўленьням буржуазных імкненьняў у саўгасах.

г) Колгасны гандаль збожжам спрыяе першачарговаму выкананьню колгасамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай. Аднак, і ў гэтай справе нельга ні ў якім разе дапускаць самацёку і на яго спадзявацца.

Нам неабходна сапраўды выканаць указаньне партыі аб першачарговым выкананьні колгасамі, саўгасамі, МТС і аднаасобнікамі пляну цэнтралізаваных загатовак.

Трэба памятаць, што **разгортваньне колгаснага гандлю збожжам можа адбывацца толькі пры ўмове і пасьля поўнага выкананьня збожжа зага-**



ДЛЯ ЗАЎВАГ

тоўчага пляну 1932 г. і пасьля ўтварэньня насенных фондаў, г. зн. з 15 студзеня 1933 г.

Зусім ясна, што кулацкія элемэнты і спэкулянты будуць імкнуцца па-свойму тлумачыць і скарыстоўваць разгортваньне колгаснага гандлю збожжам для падрыву дзяржаўнага пляну загатовак. Гэта патрабуе рашучай барацьбы са спэкуляцыяй збожжам, што павінна спрыяць лепшаму і хутчэйшаму выканаваьню пляну загатовак.

Шырока разгорнутая масавапалітычная работа, мобілізацыя ўсёй партыйнай, профсаюзнай, комсамольскай грамадзкасьці на барацьбу за арганізаванае праводзеньне загатовак, супроць спэкулянтаў і перакупшчыкаў, за сапраўды першачарговае выкананьне цэнтралізаванага пляну загатовак у вызначаныя партыяй і ўрадам тэрміны— павінны забясьпечыць далейшы ўздым творчай ініцыятывы пра-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

цоўных у барацьбе за соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі і палепшаньне снабжэньня працоўных гораду.

Кожны рабочы саўгасу. МТС, кожны колгасьнік і працоўны аднаасобнік павінны ведаць, што толькі пасьля скончэньня выкананьня цэнтралізаваных пляяаў збожжазагатовак павінен разгортвацца гандаль збожжам на базарах. У гэтым напрамку трэба весьці штодзенную масавую растлумачальную работу.

Такім чынам пры наяўнасьці значна лепшых умоў для выкананьня пляну загатовак у гэтым годзе мы ні ў якім разе не павінны недаацэньваць труднасьцяй, якія будуць няўнікнёна сустракацца пры правядзеньні збожжазагатоўчай кампаніі. Неабходна абвясьціць рашучую барацьбу опортуністычнаму самацёку ў правядзеньні загатовак.

Выканаць поўнасьцю і своечасова плян збожжазагатовак

ДЛЯ ЗАЎВАГ

мы здолеем пры ўмове рашучай барацьбы з правым опортунізмам, „левымі“ загібамі, на аснове рашучай барацьбы са скажэньнямі лініі партыі.

Унікнуць памылак мінулага году

Праводзячы збожжазагатоўчую кампанію ў гэтым годзе, неабходна дасканальна ўлічыць вопыт мінулага году для таго, каб далатныя ўзоры работы шырока ўжываць зараз, адначасова рашуча ўнікаючы паўтарэньня допушчаных у мінулым годзе памылак.

Трэба дасканальна ўявіць, у чым заключаліся памылкі пры правядзеньні збожжазагатоўчай кампаніі ў мінулым годзе. Бяз гэтага ўліку цяжка намячаць і праводзіць рад мерапрыемстваў пры загатоўках у гэтым годзе.

На гэта пытаньне зусім вычарпальны адказ дае пастанова ЦК УсеКП(б) па пытаньні аб збожжазагатоўках. У гэтай пастанове гаворыцца наступнае:



ДЛЯ ЗАЎВАГ

„Галоўная памылка нашай збожжазагатоўчай работы ў мінулым годзе, асабліва на Украіне і Урале, заключаецца ў тым, што плян збожжазагатовак быў разьвёрстан па раёнах і колгасах і праводзіўся не ў организаваным парадку, а стыхійна, па „прынцыпе“ ураўнілаўкі, праводзіўся механічна, бяз уліку становішча ў кожным паасобным раёне, бяз уліку становішча ў кожным паасобным колгасе“.

**ДЛЯ ЗАЎВАГ**

Ў надыходзячай збожжазагатоўчай кампаніі выключна важнае значэньне партыя надае пытаньням складаньня плянаў, рашучай ліквідацыі ўраўнілаўскага мэханічнага падыходу да складаньня плянаў. У гэтым годзе ні ў якім разе ня можа быць у якой-бы там

ні было ступені паўтора- на мінулагодняя практыка ўраўнілаўскага разьмеркаваньня пляну збожжазагатовак, бяз уліку становішча ў кожным раёне, у кожным колгасе.

Вось чаму ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б у падрыхтоўчай рабоце па загатоўках выключную ўвагу аддаюць пытаньням складаньня плянаў.

Тав. Молатаў у сваёй прамове на Усеўкраінскай партыйнай конфэрэнцыі ўказаў наступнае:

> „Значыць, галоўнае пытаньне заключаецца ў тым, як разьвярстаць плян збожжазагатовак і як праводзіць гэты плян. Задача заключаецца ў тым, каб рашуча пакончыць са стыхійнасьцю ў рабоце з колгасамі, пакончыць з ураўнілаўкай і мэханічным падыходам да раёнаў і колгасаў. Для гэтага нам неабходна ведаць сапраўднае становішча ў раёнах і ў колгасах, і з улі-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кам асаблівасьцяй кожнага раёну і кожнага колгасу ў арганізаваным парадку правесьці чарговую збожжазагатоўчую кампанію. Усё гэта патрабуе ня проста добрай організацыі збожжазагатоўчай работы, але сапраўднага веданьня сельскай гаспадаркі, яе асаблівасьцяй па раёнах і колгасах і правільнага падыходу ня толькі ў пляnаваньні збожжазагатовак, але і ва ўсім кіраўніцтве колгасным будаўніцтвам".

Гэтае ўказаньне т. Молатава мы павінны цьвёрда памятаць пры правядзеньні збожжазагатоўчай кампаніі.

Пры разьмеркаваньні пляну па колгасах павінен быць пасьлядоўна праведзен прынцып: чым лепш вядзе сваю гаспадарку колгас, чым большага ўраджаю ён дабіўся, чым лепш убраў ён ураджай, тым большыя рэсурсы павінны

ДЛЯ ЗАЎВАГ

астацца ў распараджэньні колгасаў. У гэтых адносінах асабліва патрабуецца ўстанаўленьне індывідуальнага падыходу з улікам асаблівасьцяй і становішча кожнага колгасу.

З усяго адзначанага вышэй мы бачым, што плянаваньне збожжазагатовак не зьяўляецца вузка-тэхнічнай справай, справай толькі статыстыкі. Давядзеньне плянаў збожжазагатовак да раёну і колгасу зьяўляецца важнейшай гаспадарчай і палітычнай задачай.

Нельга дапусьціць устанаўленьня плянаў збожжазагатовак па раёне або колгасе без таго, каб дасканальна не праверыць і не ўстанавіць сапраўдную колькасьць засеўных плошчаў, ураджайнасьць кожнай культуры, напрамак гаспадарчага разьвіцьця колгасу або раёну і т. д.

У гэтым годзе з боку цэнтральных організацый пасылаюцца ў раёны прадстаўнікі для ўдзелу ў распрацоўцы пляну да яго ўстанаўленьня па раёнах і таксама

ДЛЯ ЗАЎВАГ

пасьля разьбіўкі па раёнах, для ўдзелу і праверкі таго, наколькі правільна раённы плян разьбіваецца па МТС, колгасах і аднаасобніках.

Аднэй з рашаючых умоў правільнага ўстанаўленьня плянаў зьяўляецца прыцягненьне да іх складаньня мясцовых работнікаў і непасрэдны ўдзел у складаняні плянаў кіруючых работнікаў раёну. Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў па гэтым пытаньні спэцыяльнае ўказаньне:

> „Разьбіўка пляну па раёнах павінна быць зроблена з абавязковым удзелам сакратароў райкому КП(б)Б і старшынь райвыканкомаў, а давядзеньне плянаў да колгасаў і для аднаасобнікаў да вёскі—з удзелам старшынь колгасаў і старшынь сельсаветаў“.

Правільна разьмеркаваць плян загатовак—гэта значыць ліквіда-

вацьураўнілаўку. Для дасягненьня гэтай задачы нам трэба дабіцца таго, каб перавагі, якія маюць колектыўныя гаспадаркі перад аднаасобнымі гаспадаркамі, былі захаваны поўнасьцю, каб гэтыя перавагі былі шырока вядомы як колгасьнікам, так і працоўным аднаасобнікам.

Пры плянаваньні і правядзеньні збожжазагатовак мы павінны абавязкова дабіцца ажыцьцяўленьня таго, каб аднаасобныя гаспадаркі здавалі збожжа дзяржаве з кожнага га засеву ня менш, чым суседнія колгасы. У гэтых адносінах неабходна рашучая і бязьлітасная барацьба за выкараненьне практыкі мінулага году, якая мела месца ў радзе раёнаў, калі недавыкананьне плянаў па аднаасобным сэктары перакладвалася на колгасы.

Спынімся на астатніх важнейшых задачах збожжазагатоўчай кампаніі.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

**Падрыхтаваць тэхнічную базу і транспорт**

У радзе мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да збожжазагатовак пытаньне тэхнічнай базы займае адно з з важнейшых месц. Сваячасовая і дастатковая падрыхтоўка тэхнічнай базы (збожжахаваляніҡі, тара і інш.) павінна забясьпечыць лепшае хаваньне збожжа і ліквідацыю страт.

Зараз-жа ў колгасах і вёсках неабходна дакладна праверыць забясьпечанасьць тарай, падрыхтаваць павозкі, збрую, адрамантаваць дарогі да збожжаздатачных пунктаў.

Не допускаючы пашырэньня глыбінных прыёмачных пунктаў, мы павінны шырока разгарнуць сетку прыёмачных пунктаў вакол чыгунак, каб забясьпечыць найбольш хутчэйшую перавозку збожжа.

**Завезьці тавары ў вёску**

Зараз у вёску мы накіроўваем вялікую колькасьць тавараў шырокага спажываньня. Плян завозу тавараў у па-

раўнаньні з мінулым годам і першымі кварталамі гэтага году значна павялічан. Партыя вядзе рашучую барацьбу за тое, каб гэтыя тавары сапраўды пападалі па сваім прамым назначэньні, і прыцягвае да сурова адказнасьці тых комуністаў, якія тармозяць сваячасовае прасоўваньне тавараў у вёску або дапускаюць іх скарыстоўваньне на другія мэты.

У сучасны момант ужо напярэдадні непасрэднага разгортваньня збожжазагатоўчай кампаніі завоз прамтававараў у вёску яшчэ больш павялічваецца. Вось чаму патрабуецца ўзмацненьне бальшавіцкай барацьбы за хутчэйшае прасоўваньне тавараў і за іх расходваньне па прамым назначэньні, узмацненьне рашучай барацьбы з тымі, хто супраціўляецца або тармозіць выкананьне гэтай адказьнейшай задачы.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Спалучыць загатоўкі з самазагатоўкамі і колгасным гандлем

Задача зараз заключаецца ў тым, спалучыць дзяржаўныя цэнтралізаваныя загатоўкі з самазагатоўкамі і гандлем сельскагаспадарчымі продуктамі, апрача збожжа, гандляваць якім можна толькі пасьля выкананьня цэнтралізаванага пляну загатовак (г. зн. пасьля 15 студзеня 1933 г.).

Неабходна дабіцца далейшага разгортваньня самазагатовак коопэрацыйна-гандлёвымі організацыямі, а таксама гандаль колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных сялян. Усё гэта зьяўляецца зараз важнейшым мерапрыемствам і крыніцай для карэннага палепшаньня рабочага снабжэньня.

Аднак выкананьне гэтай задачы ні ў якім разе не павінна праводзіцца за кошт цэнтралізаванага пляну загатовак і процістаўіцца гэтаму пляну. Так ставіць пытаньне і дзейнічаць у такім напрамку могуць толькі

ДЛЯ ЗАЎВАГ

клясава-варожыя элемэнты і правыя опортуністы.

У гэтай галіне ўся масавая і організацыйная работа павінна быць праведзена пад лёзунгам першачарговага выкананьня колгасамі, саўгасамі і аднаасобнікамі сваіх абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай, якая ў гэтым годзе значна павялічыла завоз тавараў у вёску і яе машынаснабжэньне.

Неабходна разам з гэтым падкрэсьліць усю шкоднасьць скажэньняў пры правядзеньні самазагатовак і колгаснага гандлю, якія маюць месца ў радзе раёнаў (просты тавараабмен, спробы адміністрацыйнага рэгуляваньня колгаснага гандлю, конкурэнцыя і ажыятаж загатаўцеляў і т. д.).

У прамысловых цэнтрах, там дзе рабочы спажывец сам выступае на рынак, самазагатоўкі як правіла не павінны праводзіцца. Галоўнае—разгарнуць самазагатоўкі ў глыбінных пунктах, што

ДЛЯ ЗАЎВАГ

павінна спрыяць значнаму прытоку сельскагаспадарчых продуктаў нарынак і значна зьнізіць цэны.



Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б даў спэцыяльнае ўказаньне аб разгортваньні самазагатовак у глыбінных пунктах і аб спыненьні самазагатовак на гарадзкіх рынках прамысловых гарадоў (Менск, Віцебск, Гомель Магілеў, Бабруйск, Барысаў, Рэчыца, Ворша).

Разгортваючы колгасны гандаль і гандаль аднаасобнікаў, праводзячы самазагатоўкі, мы павінны забясьпечыць выкананьне цэнтралізавага пляну загатовак, выконваючы ўказаньне ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб тым, каб „не дапускаць адкрыцьця магазынаў, крам прыватнымі гандлярамі і ўсякім чынам выкараняць перакупшчыкаў-спэкулянтаў, якія прабуюць нажыцца за кошт рабочых і сялян“.

**Лепш абслужыць збожжаздатчыка**

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

Важнейшай задачай загатоўчых організацый зьяўляецца наладжаньне хутчэйшай прыёмкі збожжа, рашучая ліквідацыя бяздушна-бюрократычных адносін да здатчыка збожжа, разгортваньне адпаведнай культурна-масавай работы на прыёмачных пунктах і рад іншых задач.

Вырашэньне ўсіх гэтых задач павінна ўжо цяпер стаць справай усіх загатоўчых і партыйна-савецкіх організацый. Па гэтай лініі зараз неабходна разгарнуць самую шырокую падрыхтоўку. У часе непасрэднага разгортваньня збожжазагатовак работа прыёмачных пунктаў павінна быць узята органамі РСІ і друкам па асобны нагляд. Па гэтым пытаньні ёсьць спэцыяльнае ўказаньне пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

Надзвычай вялікае значэньне набывае ўстанаўленьне своечасовых разьлікаў са збожжаздатчыкамі і ў першую чаргу з кол-

гасамі. Неабходна строга кіравацца наступным указаньнем ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

„Пленум рашуча папярэджвае партыйна-савецкія і загатоўчыя арганізацыі супроць паўтарэньня практыкі мінулага году, калі колгасы ў выніку розных адлічэньняў атрымалі за здадзеную (прададзеную) імі продукцыю зусім недастатковую колькасьць грошай. Пленум прапануе ўстанавіць такі парадак, каб утрыманьні МТС за сваю работу праводзіліся не адразу, а роўнамерна ў каляндарныя тэрміны па ўзгадненьні з колгасамі, з тым, каб разьлікі колгасаў з МТС былі закончаны адначасова са скончэньнем выкананьня пляну збожжазагатовак па колгасе“.

Супроцьадміністраваньня і перагібаў, за рашучую барацьбу з кулаком і спэкулянтам

Пры правядзеньні збожжазагатовак нельга дапускаць аднолькавага мэтаду работы ў адносінах саўгасаў, колгасаў і аднаасобнікаў.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Неабходна строга кіравацца наступным:

а) Саўгасы здаюць збожжа на аснове дагавароў, заключаных паміж саўгасаб'яднаньнямі і збожжазагатоўчымі органамі, згодна ўстаноўленых для іх плянаў. Аднак саўгасы абавязаны здаць лішкі і таго таварнага збожжа, якое можа аказацца звыш устаноўленага для іх пляну. Гэтае збожжа саўгасы ня маюць права прадаць другім організацыям і ўстановам або на рынку, апроч дзяржаўнай загатоўчай організацыі.

Мы ўжо адзначалі вышэй аб праяўленьнях буржуазных тэндэнцый у саўгасах пры выкананьні плянаў загатовак у мінулым годзе. Праяўленьні такіх

тэндэнцый магчымы і ў гэтым годзе.

Таму нам неабходна арганізаваць правядзеньне збожжазагатовак у саўгасах так, каб ня толькі дырэктары, контролёры, і загадчыкі вучасткаў адказвалі за выкананьне плянаў. Трэба, каб усе рабочыя і арганізацыі ў саўгасах пад кіраўніцтвам партыйнай арганізацыі былі мобілізаваны на сваячасовае і добраякаснае выкананьне плянаў збожжазагатовак. У гэтым галоўнае і гэта па сутнасьці будзе вырашаць пасьпяховае правядзеньне збожжазагатовак у саўгасах.

б) У колгасах мы праводзім збожжазагатоўкі на аснове контрактацыйных дагавораў.

Галоўная задача пры правядзеньні збожжазагатовак у колгасным сэктары заключаецца ў тым, каб у хлебазагатоўчай рабоце актыўна ўдзельнічаў колгасны актыў, на які нашы арганізацыі павінны апірацца пры правядзеньні ўсёй работы. Большь



ДЛЯ ЗАЎВАГ

таго. У работу па выкананьні збожжазагатоўчых плянаў павінна быць уцягнута ўся колгасная маса.

Толькі пры гэтай ўмове мы здолеем своечасова выканаць пляны збожжазагатовак у колгасах і весьці пасьпяховую барацьбу супроць рвацкіх тэндэнцый, праяўленьняў кулацкага ўплыву, дробна-буржуазных перажыткаў, якія яшчэ ёсьць сярод паасобных груп колгасьнікаў.

в) **Асаблівую ўвагу мы павінны зьвярнуць на праядзеньне збожжазагатовак у аднаасобным сэктары сельскай гаспадаркі.** Тут збожжазагатоўкі праводзяцца таксама на аснове мэтодаў контрактацыі.

Трэба памятаць, што работа па арганізацыі збожжазагатовак у аднаасобным сэктары значна трудней і таму патрабуе значна большай увагі з боку партыйных, савецкіх і загатоўчых арганізацый. Недаацэнцы аднаасобнага сэктару ў справе выкананьня збожжазагатоўчага пляну неаб-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

ходна абвясьціць самую рашучую барацьбу.

Па пытаньні аб правядзеньні збожжзагатовак у аднаасобным сэктары мы павінны строга кіравацца наступным указаньнем лепеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

„Пленум папярэджвае партыйныя арганізацыі супроць недаацэнкі ролі аднаасобнага сэктару ў выкананьні пляну збожжазагатовак, абавязвае парторганізацыі весьці рашучую барацьбу з перагібамі і адміністраваньнем і дабіцца таго, каб аднаасобныя гаспадаркі здавалі збожжа дзяржаве з кожнага га пасеву ня менш, чым суседнія колгасы. У адносінах кулацка-заможных гаспадарак павінна быць захавана практыка дачы сельсаветамі цьвёрдых заданьняў.

Поўная перамога колгасаў і саўгасаў у сельскай гаспадарцы вызначае сабою пераважнае значэньне соцыялістычнага сэк-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

тару ў збожжазагатоўчай кампаніі гэтага году. Аднак, наяўнасьць рэштак кулацкіх элементаў і кулацкага ўплыву на аднаасобныя гаспадаркі і на паасобныя праслойкі колгасьнікаў указвае на тое, што кулацкія элемэнты нямінуча будуць супраціўляцца правядзеньню збожжазагатовак. Гэта абавязвае парторганізацыі зламаць гэта супраціўленьне і абавязкова выканаць зацьвержаны плян збожжазагатовак".

Такім чынам, пленум ЦК КП(б)Б з усёй рашучасьцю папярэджвае партыйныя організацыі супроць недаацэнкі аднаасобнага сэктару і адначасова абавязвае іх зламаць кулацкае супраціўленьне правядзеньню збожжазагатовак.

Парторганізацыі павінны разгарнуць рашучую барацьбу з дзейнасьцю кулацкіх і спэкулянцкіх элемэнтаў, якія будуць, для падрыву цэнтралізаванага пляну загатовак, імкнуцца разьвіваць збожжавую спэкуляцыю. Гэта збож-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

жавая спэкуляцыя ў радзе раёнаў ужо і цяпер мае месца. Барацьба са збожжавай спэкуляцыей павінна быць разгорнута пад лёзунгам „ніводнага цэнтнэра колгаснага збожжа перакупшчыку і спэкулянту“.

Асаблівая ўвага з боку партыйных організацый павінна быць зьвернута на барацьбу з перагібамі і адміністраваньнем пры правядзеньні збожжазагатовак. Плепум ЦК і ЦКК КП(б)Б спэцыяльна падкрэсьліў, што „ўсякія перагібы ў адносінах працоўных сялян і асабліва колгасаў і колгасьнікаў граюць на руку кулацкім элемэнтам“.

Практыка збожжазагатоўчай кампаніі мінулага году, а таксама веснавая сяўба з усёй яскравасьцю паказваюць на тое, што адміністраваньне і перагібы ёсьць даволі распаўсюджанае зьявішча ў радзе раёнаў (Талочынская справа і інш.).

Неабходна стварыць такія ўмовы ў кожным раёне, каб з

ДЛЯ ЗАЎВАГ

кожным праяўленьнем адміністраваньня і перагібаў і кожным фактам парушэньня рэволюцыйнай законнасьці вялася самая бязьлітасная бальшавіцкая барацьба. Трэба справу паставіць так, каб кожны віноўнік у перагібах і парушэньні рэволюцыйнай законнасьці прыцягваўся да самай строгай партыйнай і судовай адказнасьці.

У прыватнасьці пад асобы контроль павінна быць узята з боку партыйных організацый дача цьвёрдых заданьняў кулацка-заможным гаспадаркам. Неабходна справу паставіць так, каб цьвёрдыя заданьні даваліся выключна кулацка-заможным гаспадаркам і каб гэта мера не прымянялася ў адносінах беднякоў і серадн якоў.

Увага загатоўкам бульбы і тэхкультур.

Мы ўвесь час гаварылі аб загатоўках збожжа. Аднак гэта ні ў якім разе не азначае таго, што можа быць у

ДЛЯ ЗАЎВАГ

якой-бы то меры дапушчана інгараваньне і недаацэнка значэньня загатовак бульбы і тэхнічных культур. Ва ўмовах БССР загатоўкі гэтых культур адыгрываюць надзвычай важнае гаспадарча-палітычнае значэньне.

Поўнасьцю выканаць пляны загатовак бульбы і тэхнічных культур—гэта азначае ўмацаваць сыравінную базу нашай прамысловасьці, а таксама стварыць значна мацнейшую базу для палепшаньня рабочага снабжэньня.

Аднэй з рашаючых умоў пасьпяховага выкананьня плянаў загатовак гэтых культур зьяўляецца пасьпяховае правядзеньне іх уборкі. Трэба мець на ўвазе, што бульба, лён і каноплі—гэта такія культуры, якія патрабуюць значна большай колькасьці рабочых рук, чым культуры збожжавыя. Таму асаблівая ўвага, сілы і сродкі павінны быць накіраваны на гэты вучастак уборкі, што будзе вырашаць посьпех загатовак.



ДЛЯ ЗАЎВАГ

У ліку мерапрыемстваў, зьвязаных з загатоўкамі гэтых культур, важнейшым мерапрыемствам зьяўляецца наладжваньне хаваньня бульбы і перапрацоўкі тэхнічных культур. Практыка мінулага году паказвае на тое, што адсутнасьць дастатковай увагі да гэтай справы выклікала значныя страты. Таму неабходна пад асобы контроль партыйных савецкіх і загатоўчых організацый узяць справу захаваньня і пераапрацоўкі тэхнічных культур.

Акрамя таго неабходна забясьпечыць выкананьне наступнай дырэктывы ліпеньскага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б.

„..Для заахвочаньня далейшага разьвіцьця ільнаводзтва абавязаць СНК пры вызначэньні пляну збожжазагатовак па раёнах абавязкова прадугледзець поўнае выкананьне пастаноў ураду аб вызваленьні асноўных ільнаводчых раёнаў і колгасаў ад збожжазагатовак, а таксама зьнізіць плян зага-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

товак ільнасемя ў колгасах, якія з посьпехам справіліся з церабленьнем і ўборкай ільну, на 15 проц.*.



БССР адносіцца да ліку такіх рэспублік Саюзу, якія павінны значна дапамагчы снабжэньню пролетарскіх цэнтраў Саюзу (Масква, Ленінград) гароднінай і бульбай. Выкананьне пляну вывазу гародніны і бульбы для пролетарскіх цэнтраў зьяўляецца пачэснай і адказнай задачай працоўных Беларусі. Пролетары Масквы і Ленінграду аказваюць вялізарнейшую брацкую дапамогу гаспадарчаму і культурнаму разьвіцьцю БССР. Наш баявы абавязак выканаць плян вывазу гародніны і бульбы пролетарскім цэнтрам Саюзу поўнасьцю і ў тэрмін.

**Разгарнуць масавую работу, соцспаборніцтва і ударніцтва.**

Збожжазагатоўкі мы павінны правесьці на аснове ўжо выпрабаваных мэтодаў масава-палітычнай работы, мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Толькі

гэтым шляхам мы здолеем выканаць гэту адказьнейшую, гаспадарча-палітычную задачу прычым выканаць так, каб сапраўды зьвязаць выкананьне плянаў збожжазагатовак з далейшым організацыйна-гаспадарчым умацаваньнем колгасаў.

Кожнае практычнае мерапрыемства па правядзеньні збожжазагатоўчай кампаніі трэба правесьці так, каб яно садзейнічала ўмацаваньню колгасаў, каб перавагі, даваемыя колгасам ў параўнаньні з індывідуальнымі гаспадаркамі, былі строга і поўнасьцю захованы і папулярызаваны, каб колгасы, якія лепш пасеялі, убралі і поўнасьцю выканалі плян збожжазагатовак, сапраўды мелі-б у сваім распараджэньні большую колькасьць збожжа.

Выканаць усе гэтыя выключнай адказнасьці задачы мы здолеем толькі пры тэй умове, калі сапраўды разгорнем масавую работу, калі мобілізуем усе сілы вясковай партыйнай організацыі,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

комсамол, профсаюзы, колгасна-зямельныя органы і ўсе грамадзкія організацыі. Бяз гэтага нямысьліма пасьпяховае выкананьне пляну загатовак у вызначаныя тэрміны.

Шляхам разгортваньня масавай работы мы павінны арганізаваць на правядзеньне збожжазагатовак шырокі колгасны, актыў, рабочых саўгасаў, бедня-коў і сераднякоў—аднаасобнікаў, організаваць гэтыя масы супроць кулацкай агентуры ў радох партыі—правых і „левых“ опортуністаў, якія будуць імкнуцца сарваць выкананьне збожжазагатоўчага пляну.

Друк, радыё, дабравольныя таварыствы, культурна-асьветныя ўстановы і ўсе масавыя організацыі павінны ўжо зараз актыўна рыхтавацца да таго, каб прыняць непасрэдны ўдзел у правядзеньні збожжазагатоўчай кампаніі. Асноўныя баявыя лёзунгі збожжазагатовак павінны быць шырока популярызаваны, давед-зены да кожнага колгасьніка,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

бедняка і серадняка—аднаасобніка.

У выніку шырокага разгортваньня масава-палітычнай работы мы павінны дабіцца таго, каб кожным колгасьнікам, працоўным аднаасобнікам, кожным саўгасам было ўсьвядомлена тое, што іх абавязкам зьяўляецца першачарговае выкананьне збожжазагатоўчых плянаў у тэрміны, якія ўстаноўлены партыяй і ўрадам, і каб гэты абавязак быў сапраўды выканан,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

